© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 43 (678) 3 ЛІСТАПАДА 2004 г.

## Гедзімін вяртаецца ў Ліду



**30 лістапада ў Лідскім райвыканкаме скульптар Аляксандр Лушчык, архітэктар Мікалай Курылін і кіраўнік праекту Анатоль Белы прадставілі старшыні выканкама Андрэю Худыку макет коннага помніка заснавальніку горада Ліды, Вялікаму князю Літоўскаму Гедзіміну, які можа быць устаноўлены ў Лідзе. А гэтага дня пачаўся шлях помніка ў Ліду. Падчас сустрэчы дасягнута пагадненне, што ў бліжэйшыя месяцы будзе адліты бронзавы варыянт макета. Гаворачы пра канцэпцыю помніка, скульптар А. Лушчык адзначыў, што помнік вырашаецца ў спакойнай манеры таму, што Гедзімін у Лідзе - гэта Гедзімін не ў паходзе, не на вайне, тут ён дома, у горадзе, які ён заснаваў. Тут ён - не воін, тут ён - гаспадар. Прапанаваная велічыня помніка 1,5 натуры.**

***Станіслаў Суднік.***

## З ІНІЦЫЯТЫВЫ ТБМ У 2005 ГОДЗЕ Ў СВЕТ ВЫЙДЗЕ ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК "РОДНАЕ СЛОВА Ў МАЛЮНКАХ"

З ініцыятывы рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ў наступным годзе ў выдавецтве "Народная асвета" выйдзе вучэбны дапаможнік "Роднае слова ў малюнках".

Як паведаміў БелаПАН старшыня ТБМ Алег Трусаў, кніга ахоплівае больш за 70 асноўных тэм агульнаўжывальнай лексікі сучаснай беларускай мовы. "Яна адрасуецца ўсім, хто хоча авалодаць беларускай мовай, у тым ліку прадстаўнікам дыпламатычных колаў і іх сем'ям, а таксама грамадзянам, якія прыязджаюць у Беларусь з іншых краін. Кніга выйдзе накладам у дзве тысячы асобнікаў і будзе каштаваць прыкладна 13 тысяч беларускіх рублёў", — адзначыў А.Трусаў.

У інтэрвію БелаПАН аўтар кнігі, член рэдкалегіі навукова-метадычнага часопіса Міністэрства адукацыі "Роднае слова", выкладчык беларускай мовы і літаратуры з 49-гадовым стажам Валянціна Раманцэвіч, якая да нядаўняга часу працавала ў Менскім дзяржаўным педагагічным каледжы № 1, паведаміла, што такога выдання ў Беларусі яшчэ не было. "Ідэя кнігі ўзнікла з досведу работы курсаў беларускай мовы ТБМ", — сказала педагог. Паводле яе словаў, кожнай тэме выдзелена адна старонка. Запланаванае выданне будзе мець фармат звычайнага школьнага падручніка.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## 135 гадоў Я. Я. Стаброўскаму



СТАБРОЎСКІ Язэп Язэпавіч (21.10. (2.11). 1869, г. Слонім – 15.1.1968), бел. археолаг і краязнавец. Чл.-кар. Віленскага аддз. Маск. археал. т-ва і Яраслаўскага археал. т-ва. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус (1889), Аляксандраўскую вйск. вучэльню (1891), Маск. археал. ін-т (не раней 1909), археал. курсы пры Саратаўскім ун-це (не раней 1910-11). З канца 19 ст. займаўся гісторыяй і археалогіяй Беларусі, праводзіў раскопкі ў Гарадзенскай і інш. губернях, збіраў калекцыі кніг і археал. знаходак. Удзельнік 1-й сусв. вайны, палкоўнік. З 1918 у Чырв. Арміі. У 1921 вярнуўся на радзіму, вывучаў гісторыю Слонімшчыны і Гарадзеншчыны. Сабраная ім вял. калекцыя гіст.-археал. матэрыялаў у 1920-я г. стала асновай Слонімскага краязнаўчага музея, дзе С. працаваў дырэктарам і захавальнікам фондаў. У час. Вял. Айч. вайны захаваў археал. калекцыі музея.

## *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лістападзе*

Абрагімовіч Марына Яўг.
Амінава Святлана.
Андрэйкавец Надзея Дміт.
Арцёменка Вольга Аркадз.
Бабак Вольга.
Бабкова Ганна Ігараўна.
Баранаў Аляксандр.
Бародка Зміцер Міхайл.
Бартасевіч Людміла.
Баўтовіч Міхась.
Бахвалаў Дзмітрый.
Бекіш Віктар Андрэевіч.
Белакоз Вера.
Борын Алег Мікалаевіч.
Ваданосава Фаіна Алякс.
Васько Віктар Вячасл.
Відрук Тацццяна Антон.
Вікторчык Ніна Сяргееўна.
Вярцінскі Анатоль Ілліч.
Гедрэвіч Іосіф Антонавіч.
Гівоіна Вольга Міхайл.
Гнедчык Алег.
Груша Дар'я Уладзімір.
Грыб Ян Янавіч.
Губарэвіч Віктар Дзмітр.
Гур'ян Алена Барысаўна.
Дабравольскі Аляксандр.
Давыдзька Святлана.
Давыдоўская Ніна Юльян.
Дацэнка Аляксандр Кірыл.
Дзербянёва Анжаліка.
Дзіцэвіч Людміла Мікал.
Домаш Валянціна Іосіф.
Досіна Алена.
Драгун Данута.
Дрыга Святлана Мікал.
Дубовік Іна Пятроўна.
Еўсіевіч Наталля Анат.
Зайкоўскі Эдвард Міхайл.
Зарэцкая Вера Якаўлеўна.
Здановіч Уладзімір Васіл.
Зуева Галіна Паўлаўна.
Кадыш Любоў.
Кажамякін Генадзь Вячасл.
Казакоў Алесь.
Казачонак Сяргей.
Казлоўскі Руслан Канст.
Калатоўкіна Ларыса Анат.
Капойка Уладзімір.
Карповіч Ірына Іванаўна
Кацяшоў Дзмітры Сярг.
Кірыльчук Хрысціна Васіл.
Кірэева Алена Уладзімір.
Козел Галіна Маркаўна.
Кошкіна Людміла Часл.
Крук Валянціна Іосіфаўна.
Крыжаноўская Вольга Ал.
Кудлацкая Валянціна.
Кузьма Аляксандр.
Кузьміч Мікалай Пятровіч.
Кулей Іна Феліксаўна.
Кучынская Галіна.
Лапіцкая Святлана.
Левіт Зміцер.
Лепяцюхіна Ганна.
Літоўчык Святлана Міх.
Лойка Алег Паўлавіч.
Лубянава Тацццяна Віктар.
Ляўчук Аляксандр Сярг.
Макарэвіч Наталля Міх.
Маковіч Дзіна.
Маліноўскі Віктар Леанід.
Мароз Жана Мікалаеўна.
Мацкевіч Вольга Іванаўна.
Мацкоўская Наталля Вас.
Мацюкевіч Паўлюк Іван.
Мельнік Міхась Іванавіч.
Мельнікаў Аляксандр.
Мельнікаў Андрэй Міхайл.
Міжурына Раіса Канстан.
Мілаш Леакадзія.
Міхалевіч Мілана Міхайл.
Моніч Зміцер.
Мухіна Леанарда Станісл.
Навумік Аляксандр.
Нагін Павел.
Несцераў Аляксей.
Нікіціна Ліля.
Нікіціна Людміла Канстан.
Паграбіцкі Алег.
Падасетнікаў Васіль.
Паляшчук Тацццяна.
Панюціч Аляксандр.
Паросава Марына.
Пашкевіч Валеры Васіл.
Пракаповіч Мікалай Мік.
Пракопчык Марына Міх.
Пугаўка Алена.
Пугачэўскі Аляксандр Вік.
Пыльчанка Яўген Алякс.
Радзіон Ірына.
Ралько Леанід Міхайлавіч.
Розумаў Анатоль Якаўл.
Савіцкая Яніна Іосіфаўна.
Савіч Аляксандр Алякс.
Сальга Надзея Віктар.
Сімакова Рэгіна Іосіфаўна.
Сінкевіч Мікалай Сцяпан.
Скуратовіч Аркадзь.
Сталярова Вера.
Станкевіч Ларыса Фёдар.
Стасюкевіч Дзіна.
Сурко Анатоль.
Сцепулёнак Эма Антон.
Тарасава Святлана Міх.
Тозік Эдуард.
Трафімец Ульяна Святасл.
Трафімчык Алена Веніям.
Турцэвіч Паліна Віктар.
Тычына Дзмітры Валянц.
Уласава Дар'я.
Філатава-Станэлік Юлія.
Фралоў Аляксей Валер'ев.
Хамінскі Міхась Аляксан.
Цеханович Святлана.
Чаховіч Г. Г.
Чашун Уладзімір.
Шчурко Галіна Аляксан.
Шчурко Лідзія Іванаўна.
Шыманчык Святлана Мік.
Ялугін Эрнест Васілевіч.
Яскевіч Аляксей Юр'евіч.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Наша слова № 43 (678) 3 ЛІСТАПАДА 2004 г.





# З трывогай за будучыню ТБМ

27 кастрычніка з ініцыятывы рэвізійнай камісіі ТБМ адбылося сумеснае паседжанне з сакратарыятам. На паседжанні разгледжана хваляўючае пытанне аб арэндзе памяшкання пад офіс Таварыства. Рэч у тым, што ў лютым заканчваецца тэрмін арэнднага дагавору. А што чакаецца надалей, ніхто ўпэўнена не ведае. Гэта выклікае заклапочанасць многіх сяброў нашага аб'яднання. Сакратарыят выказаў спадзяванні, што дамова на працяг арэнды будзе перазаключаная. Але, тым не менш, вырашылі звярнуцца да тых, хто зможа дапамагчы ТБМ. Была разгледжана справаздача бухгалтара ТБМ Ірыны Краўчук аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці. Адзначаны цяжкі фінансавы стан з прычыны несвоечасовых паступленняў сяброўскіх складак. Пад пагрозай разлік за гаспадарчыя і камунальныя паслугі ў лістападзе і снежні.

Недахопаў у фінансава-гаспадарчай дзейнасці Таварыства рэвізійная камісія не адзначыла. Усе выдаткі ад паступіўшых грашовых сродкаў адбываліся мэтанакіравана, на неабходныя патрэбы для дзейнасці Таварыства.

За мінулы час заўваг, прапаноў ад сяброў ТБМ і рэгіянальных арганізацый не паступала.

*Мікола Лавіцкі,*
*старшыня Рэвізійнай камісіі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"*

## СПРАВАЗДАЧА АБ ФІНАНСАВАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Таварыства беларускай мовы за перыяд 1.01.-1.10.2004 г.

На 1.10.2004 года на рахунак паступіла **7616475 рублёў**. З іх ахвяраванні склалі **5735925 руб.**, складкі – **1880550** руб.

З гэтых сродкаў былі зроблены наступныя выплаты:

- арэна памяшкання і камун. паслугі – 1 926 553 руб.;
- тэлефон – 1 329 420 руб.;
- аплата працы – 1 037 110 руб.;
- аплата у ФСАН – 419 525 руб.;
- аплата падаткаў у бюджэт – 24 075 руб.;
- ахвяраванні на выданне газеты "Наша слова" – 3000000 руб.;

Затраты на дзейнасць ГА ТБМ склалі 4 456 292 руб., якія былі спісаны за кошт паступіўшых ахвяраванняў і складак.

**Гал. бухгалтар – Краўчук І. Г.**



МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
КАМІТЭТ ПА АДУКАЦЫІ

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
КОМИТЕТ ПО ОБРАЗОВАНИЮ

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А. А.

**Паважаны* Алег Анатольевіч!**

Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама разгледзеў Ваша пісьмо і паведамляе наступнае.

Навучанне і выхаванне ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе № 168 ажыццяўляецца на рускай і беларускай мовах.

У 2004-2005 навучальным годзе ў школе навучанне на беларускай мове ажыццяўляецца на беларускай мове ў 10 "А" класе эканамічнага профілю (21 вучань), 10 "В" класе фізіка-матэматычнага профілю (30 вучняў), 11 "В" класе фізіка-матэматычнага прафілю (19 вучняў)

10 "Б" клас – рускамоўны.

Выбар мовы навучання здзяйсняецца па заявах бацькоў.

Навучанне на беларускай мове ў 10 "А" класе здзяйсняецца першы год. Таму выклікае пэўныя цяжкасці з боку вучняў па ўспрыманні некаторых паняццяў. Па просьбе вучняў настаўнікі вымушаны рабіць пераклад на рускую мову.

Адміністрацыя школы аджыццяўляе кантроль за вядзеннем школьнай дакументацыі і арганізацыяй вучэбна-выхаваўчага працэсу ў беларускамоўных класах.

**Намеснік старшыні – Т. У. Злобіна.**

# ЛЁСАМ ПАЗНАНАЕ

**Лідзія САВІК**

**Да 70-годдзя Алеся Рыбака**



Дастаткова пазнаёміцца з біяграфіяй пісьменніка, каб пераканацца, што гэта лёс яго бацькоўскага дому, яго радзімы на пэўным адрэзку шляху, роўнавялікі жыццю не толькі асобнага чалавека, але і цэлага пакалення аднагодкаў. Для Алеся Рыбака, які належыць да пакалення пісьменнікаў, чыё дзяцінства было абпалена вайной, гэты шлях пачаўся 7 лістапада 1934 года ў вёсцы Макаўчыцы Дзяржынскага раёна ў працавітай сялянскай сям'і. Самыя ўражлівыя гады дзяцінства былі азмрочаны не толькі гэтым усенародным бедствам, але і асабістай трагедыяй – ад рук фашыстаў загінулі бацька і маці. Аднак трэба было жыць, выжываць у жудасных умовах ваеннага і пасляваеннага часу. І нездарма шмат у чым аўтабіяграфічны раман Алеся Рыбака названы так сімвалічна, па-народнаму цярпліва-пераканальна "Трэба было жыць..." Героям твора цяжка было паверыць у рэальнасць вайны, бо для простых людзей яна пачалася раптоўна, нечакана. Ужо з першых старонак аўтару ўдалося сцвердзіць лёсам сваіх герояў, дзяцей і дарослых, што само паняцце вайны супраціглае і варожае натуры чалавека, у нармальным чалавечым успрыманні жыцця ёй няма месца наогул. Але апошняя вайна жудасным, знішчальным валам пракацілася па нашай зямлі і не трагічны подых адчувальны амаль у кожнай беларускай сям'і і па сённяшні дзень. Пра гэта і другая кніга Алеся Рыбака "Што пасееш", якую пісьменнік прысвяціў светлай памяці маці. Высокую ацэнку даў ёй у свой час Васіль Быкаў: "Дабротны твор рэалістычнай прозы, напісаны па-майстэрску і стрымана, без непатрэбнай у такіх выпадках шматслоўнасці і налёту сентыментальнасці..."

Але гэтым творчым поспехам папярэднічалі многія гады сталення, вучобы, працы над самім сабой, калі ўсталёўвалася мірнае жыццё і патрабавала мудрасці, развагі і спадзяванняў толькі на самога сябе. Тое, як выбудоўвай свой жыццёвы і творчы шлях Алесь Рыбак – па-сялянску паступоваразважліва, грунтоўна набіраючыся жыццёвага і творчага досведу, можа служыць прыкладам для маладых. Раннія юнацкія гады будучага пісьменніка былі асветлены сустрэчамі з Якубам Коласам, бо пашчасціла Алесю Рыбаку вучыцца і жыць у коласаўскіх мясцінах (некаторы час жыў у сям'і старэйшай сястры ў Мікалаеўшчыне), заканчваць Мікалаеўшчынскую сярэднюю школу, куды часта на сустрэчу з вучнямі прыязджаў Якуб Колас.

Цудоўныя краявіды Стаўбцоўшчыны, улюбёнасць у творчасць вялікага пісьменніка, дараваная лёсам магчымасць чуць і часта бачыць жывога класіка – усё гэта паспрыяла таму, што юнак безаглядна палюбіў беларускае паэтычнае слова, сам стаў спрабаваць свае сілы ў паэзіі. Падборкі яго вершаў, прысвечаныя харастру роднай зямлі, якім так захапляўся і Якуб Колас, змяшчаліся з 1953 года ў Стаўбцоўскай раённай газеце "Голас селяніна". Тады ж вершы Алеся Рыбака пачынаюць з'яўляцца і на старонках рэспубліканскіх газет ("Калгасная праўда", "Чырвоная змена", вершы: "Вясновым вечарам", "Над Нёманам", "Як я ехаў у горад вучыцца" і інш.). Прыгажосць, мілагучнасць беларускага слова, захапленне ім глыбей пазнавалася і ўмацоўвалася падчас вучобы на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры філфака БДУ і асабліва на практычнай рабоце ў рэдакцыях раённых газет (Радашковічы, Дзяржынск, Бягомль), калі пасля заканчэння універсітэта 1958 г. Алесь Рыбак пачаў увахо-дзіць у самастойнае жыццё, непасрэдна адчуваць яго няпростыя праблемы.

З 1959 года ён стала жыве ў Менску, працуе на Беларускім радыё, пазней у часопісе "Бярозка". І, як гэта часта здараецца ў творчасці многіх пісьменнікаў, пачынае пераходзіць да прозы, усведамляючы, што гэты жанр найбольш прыдатны для яго мастацкай палітры. І традыцыйна пачынае з малых жанраў: нарыса, апавядання. Так у друку, на радыё загучалі першыя нарысы, апавяданні, тэмы для якіх падказвала сама рэчаіснасць, уласна перажытае, убачанае і пачутае ў частых паездках па Беларусі. (Нарысы: "Далёкі шлях", "З думай аб будучыцм", "Шчасце старога Пархвена", "Агітатар", "Плячо у плячо", "Чужая", "Гэта таксама подзвіг", "Ёсць з каго браць прыклад", апавяданні: "Першыя крокі", "Швачка", "Падарунак", "Зашумела, загуло", "З адкрытай душой", "Вяртанне", "І людзі паверылі", "Святлана", "Ахвяра сумленнасці", "Незабыўнае" і інш. Характэрнай асаблівасцю ранніх празаічных твораў Алеся Рыбака была праўда жыцця, праўда пачуццяў, адкрытасць і выключнасць аўтарскай пазіцыі пры ўзнаўленні жыццёвых з'яў, фактаў, падзей, многія з якіх пададзены, трапна апісаны з гумарам, то з мяккім добразычлівым, то з асуджальна-непрымальным. Тут яскрава праглядвалася наследаванне коласаўскай традыцыі. Вядома, што Якуб Колас валодаў неперадузыдзеным талентам мастака-гумарыста, у яго творчасці надзвычай удала спалучаліся самыя розныя адценні беларускага паэтычнага слова.

Пазней гумарэскі Алеся Рыбака друкаваліся пераважна ў "Вожыку", "Калгаснай праўдзе" ("Вандроўныя грузы", "Певень падвёў", "Клякса", "Сумная гісторыя", "Дыспрапорцыя", "Прысядзьце, хлопчыкі", "Збіў з панталыку", "Перастараўся", "Вось дык лазня" і інш.). Пісаў у гэтыя гады пісьменнік і апавяданні для дзяцей і пра дзяцей, якія змяшчаліся на старонках часопісаў "Вясёлка", "Бярозка", "Маладосць" (цыкл кароткіх апавяданняў "Дзіцячыя ўсмешкі"), адгукаўся рэцэнзіямі на творы беларускіх пісьменнікаў, блізкіх яму па творчай манеры, тэматычнай скіраванасці, жыццёваму лёсу.

У другой палове 60-х гадоў у жыцці Алеся Рыбака адбываецца неардынарная падзея – яго запрашаюць у Маскву на рэдактарскую працу ў аддзел апублікавання актаў Вярхоўнага Савета СССР (1966-70), затым ён становіцца рэферэнтам у сакратарыяце Прэзідыюма Вярхоўнага Савета (1970-72) і адначасова выкладае беларускую мову і літаратуру ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Гэтыя факты з біяграфіі Алеся Рыбака нагадваюць падобныя моманты з жыцця нашага выдатнага пісьменніка Уладзіміра Дубоўкі. Як вядома, У. Дубоўка таксама працаваў у Маскве (1922-25) рэдактарам беларускага тэксту "Весніка ЦВК, СНК Саюза ССР" і адначасова адказным сакратаром прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду (1924-27), потым быў рэдактарам "Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўрада Саюза ССР" (1926-30). Зразумела, назвы ўрадавых устаноў з цягам часу змяніліся, як змяніўся за паўстагоддзе і сам час. Уладзімір Дубоўка, у ліку многіх іншых пісьменнікаў, быў рэпрасаваны ў 1930 г. і 27 гадоў правёў у сталінскім ГУЛагу. Алесь Рыбак, дзякаваць Богу, мог толькі чытаць пра гэтыя жудасныя часы. У сваіх маскоўскіх нататках ён пісаў: "Далі пачытаць Барыса Дзякава "Аповесць пра перажытое". Ашаломлены, не спаў некалькі начэй. Хто спарадзіў гэткае страшыдла – культ асобы?! А мае ж рабочае зараз месца – непадалёк ад яго колішняга логава. Вусцішна стала хадзіць па гэтых калідорах..."

Працуючы ў Маскве, у Крамлі, Алесь Рыбак у поўнай меры выкарыстоўваў магчымасць непасрэднага далучэння да вялікай рускай культуры і літаратуры, мог творча натхняцца, гледзячы на помнік Пушкіну, або наведваючы кніжныя выставы, дзе было шмат і беларускіх кніг, канцэрты, тэатры, шматлікія музеі, прымаючы ўдзел у сустрэчах з пісьменнікамі. Але за ўсім гэты стаялі найперш беларускія справы, уласная творчасць, пісаліся апавяданні, жыла ў душы малая радзіма, часта ўспаміналася сірочае дзяцінства.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)

**5 ліпеня 2004 г.**

Сёння збіраюцца тыя, хто едзе ў жніўні ў Беларусь рабіць рамонт у Станькаўскай школе-інтарнаце. У той кавярні, дзе мы першы дзень размяркоўвалі з дзецьмі па сем'ях, сабралася каля дзесяці чалавек, каб абмеркаваць справы.



*Ірландцы абмяркоўваюць праект паездкі ў Беларусь у жніўні 2004 г.*

Усіх ірландцаў, хто ляціць у Беларусь, трынаццаць. Іх не палохае гэтая лічба, і яны не робяць спробы адшукаць чатырнаццатага. Рэй вядзе Шон Крэг. Прыемна глядзець, як моладзь і сталыя з павагай слухаюць гэтага сарамяжнага асілка, які на ўзроўні менеджэра-прафесіянала арганізоўвае гэтую паездку. Здаецца, Шон не забываецца ні на што, улічвае кожную дробязь.

Валанцёры гаварылі пра фінансавы бок праекту, пра падарункі, з якімі яны прыляцяць да дзяцей, абмяркоўвалі прылады працы, якія ім спатрэбяцца для рамонту. Яны бяруць з сабой толькі неабходнае, астатняе цяпер ужо можна набыць і ў нашых крамах. Праўда, фарбу вырашылі купляць у Ірландыі, не спадзяюцца на нашую якасць. Мне трэба будзе павывучваць англійскую будаўнічую лексіку, якую я і па-беларуску не ведаю. Пагэтаму, калі ірландцы гавораць на будаўнічыя тэмы, мне здаецца, што ў маіх вушах вата—разумею з пятага на дзесятае.

Я буду сустракаць гасцей у Менску, і мяне цікавіць, як арганізаваць адпачынак для іх, што паказаць у Беларусі. Але ўсе мае прапановы адмятаюцца: людзі едуць працаваць, а не адпачываць. І толькі пасля ўгавораў (ірландцы таксама, аказваецца любяць прымус!) яны згадзіліся наведаць Тэатр оперы і балета. Мне здавалася, што цырк ці тэатр музкамедыі або рок-канцэрт ім спадабаецца больш, але яны вырашылі пайсці ў тэатр, бо, як аказалася, ніхто з іх ніколі не быў у такім тэатры.

Кілбэгэнцы таксама абмеркавалі справы па падрыхтоўцы Спонсарскага прабегу на раварах з Гольвея да Дубліна, які пачнецца 24 ліпеня і падчас якога будуць сабраныя матэрыяльныя сродкі, неабходныя для паездкі ў Беларусь. Мяне ўразіла, як дэталёва, дакладна абмяркоўваўся гэты праект, як актыўна ў абмеркаванні ўдзельнічала моладзь, як вылучаліся імі самыя нечаканыя ідэі і як паважліва да іх ставіліся дарослыя. Я таксама загарэлася ідэяй пачаць збіраць сродкі ў Беларусі для сустрэчы гасцей, хаця б на тыя ж білеты ў тэатр, але, як паказаў час, на такія ахвяраванні беларускія людзі яшчэ не ідуць—"не да жыру, быць бы жыву".

**6 ліпеня.**

Сёння наведваю сям'ю Марка і Мэры Горы, дзе жыве беларуска Паліна. Ён працуе на мясакамбінаце кампутаршчыкам, а яна інструктарам у шпіталі па карысным харчаванні. Мэры паказвала мне вялізны альбом і плакаты, з якімі яна ездзіць па гарадах у адукацыйныя цэнтры і чытае лекцыі, якія прадукты неабходна купляць, як гатаваць, каб харчаванне было збалансаваным.

Гэтая сям'я была сярод першых валанцёраў – сяброў Беларусі. Некалькі гадоў назад яны сустракалі Каляды з беларускімі гасцямі—у іх доме гасцілі Марыя Міцкевіч і Марына Язневіч з дзіцячага фонду "Сакавік". На працягу колькіх гадоў тут праводзіў сваё лета гомельскі хлопчык Руслан, мы з Мэры патэлефанавалі ў Гомель, і я перакладала цёплую, са слязамі, гутарку Мэры з Русланам і яго маці Святланай. Потым, вяртаючыся на Беларусь, я везла пакуначак з гасцінцамі і для сям'і Руслана ад шчодрай, сардэчнай сям'і Горы.

Палінцы вельмі добра ў гэтым доме, у двары, дзе ўсё падрыхтавана для дзіцячых гульняў, дзе яна бавіць час з сынам Гораў Шэйнам і суседскімі дзецьмі. Бацькі Мэры таксама займаюцца дабрачыннымі справамі, таксама запрашаюць беларускіх дзяцей да сябе. Я была вельмі рада пазнаёміцца з імі. І ўвогуле, Кілбэгэн—вельмі малы гарадок, але мне здаецца ўжо, што тут кожная другая сям'я дапамагае Беларусі. Да мяне на вуліцы падыходзяць людзі, распытваюцца пра нашу краіну, расказваюць пра беларускіх дзяцей, якія ў іх жылі ці жывуць. У маім уяўленні і Кілбэгэн, і Клара, і інш. — гэта такія ірландскія выспы Любові, Надзеі, Усмешкі, Шчасця, дзе беларускія дзеці забываюцца на сваё незайздроснае жыццё, дзе іх жаданні збываюцца.

*(Працяг у наст. нум.)*

Станіслаў Суднік

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**"ДРУГІ З'ЕЗД ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ**

14 – 15 чэрвеня 1991 года у Менску у Доме літаратара прайходзіў у 2-гі з'езд ТБМ імя Францішка Скарыны. З'езд адкрыў старшыня Рэспубліканскай рады ТБМ паэт Ніл Гілевіч. Ён жа зрабіў справаздачны даклад. З садакладам выступіў прафесар Леанід Лыч. Ад беларускага ўраду на з'ездзе прысутнічалі Кебіч, Дзямчук, Краўчанка, Кавалёў, Сухнат. Сур'ёзнае прадстаўніцтва. Затое не было нікога ні з кіраўніцтва КПБ, ні лідараў БНФ, хаця з добрай паўзалы было сяброў і прыхільнікаў БНФ, БСДГ, НДПБ. Прысутнічалі дэлегаты са шматлікіх суполак ТБМ, як з Беларусі, так і з замежжа, блізкага і далёкага: з Літвы, Эстоніі, Ніжняга Ноўгарада, Цверы, ну і вядома з Прыазёрска, а таксама з Польшы, з Лондана – уніяцкі святар Аляксандр Надсан. Святароў наогул было чацвёра, акрамя Надсана – два каталіцкія і адзін праваслаўны. Узброеныя сілы СССР прадстаўлялі падпалкоўнікі Вінцэнт Чорны з г. Цвер, Станіслаў Суднік з Прыазёрска, Мікола Статкевіч і Мікола Бірукоў з Менскай вучэльні. Быў таксама і маёр міліцыі з Менска.

Не спрабуючы перадаваць змест прамоў (яны амаль усе надрукаваны, з большага. У "Нашым слове") хочацца адзначыць атмасферу з'езду. Прэзідыюм вёў з'езд пад лозунгам згоды, кансалідацыі усіх беларускіх сілаў дзеля адраджэння мовы. Зала была настроена, аднак, больш радыкальна. Асабліва крайнія пазіцыі занялі прадстаўнікі клуба "Спадчына", "Задзіночання беларускіх студэнтаў", суполкі ТБМ з Ніжняга Ноўгарада. Тым не менш варта адзначыць, што па ўсіх пытаннях з'езд лёгка дайходзіў да згоды. Агульны непакой за стан роднай мовы дамінаваў над усімі іншымі пачуццямі.

На выбарах старшыні рэспубліканскай рады ТБМ з памяркоўнага Ніла Гілевіча і радыкальнага Вінцука Вячоркі з'езд аддаў большасць галасоў за Ніла Гілевіча.

Ацэньваючы значэнне з'езду варта заўважыць, што ён, не гледзячы на ўсе паднятыя праблемы і цяжкасці, не гледзячы на яшчэ раз пацверджаны гаротны стан беларускай мовы, усё такі пасяліў надзею ў душах дэлегатаў, надзею на тое, што мова будзе адратавана, што мова будзе жыць. Людзі пакідалі з'езд з верай у карысць і неабходнасць той працы, якую яны праводзяць. І ўлічваючы тое, што на Беларусі моўнае пытанне знаходзіцца на вастрыні палітычнай барацьбы, з'езд замацаваў надзею на поўнае нацыянальнае адраджэнне беларусаў наогул.

Надзею падае і такая з'ява, нацыянальная ідэя зрабіла пралом і ў цесным шыхце закасцянелых "інтэрнацыяналістаў", здолела ў шмат каго абудзіць нацыянальны гонар. Старшыня Савета Міністраў В. Ф. Кебіч паабяцаў усе прамовы з першага верасня рабіць па-беларуску, ЦК КПБ прыняў рашэнне на працягу 1,5 гадоў перавесці партыйнае справаводства на беларускую мову і г.д. Вельмі хочацца верыць, што нацыянальная ідэя зможа такі ўзняцца і над "ізмамі" малафеяўцаў і над "антыізмамі" Пазьняка."

**"ШТО НЕ НАДРУКАВАЛА "НАША СЛОВА"**
**(з прамовы Станіслава Судніка на 2-м з'ездзе ТБМ)**

Мы знаходзімся далёка ад Беларусі і, магчыма, памыляемся, але мы ацэньваем стан беларускай мовы і беларускай нацыі наогул, як крытычны. Прыклады такога становішча мы маем у гісторыі. У сярэдзіне мінулага стагоддзя ў такім стане знаходзілася чэшская нацыя. Ёй тады пагражала поўнае анямечванне. Чэшская суполка "Яднота" выпрацавала шэраг прынцыпаў паводзін чэха, які больш вядомы пад назвай "Статут чэшскай сям'і".

Чэхі тады выратаваліся. Мы таксама выпрацавалі шэраг прынцыпаў, які умоўна назвалі "Палітыка жорсткага нацыяналізму". І не трэба баяцца гэтага слова. Каб беларускі нацыяналізм стаў каму-небудзь хоць чым-небудзь небяспечным, трэба, каб беларусы спачатку сталі нацыяй. Не збіраючыся пералічваць усе пункты я спынюся на галоўных.

Гэта:

- Усе школы, сярэднія-спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя установы перавесці на беларускую мову выкладання, уступныя экзамены прымаць па-беларуску:
- усе партыі і рухі рэспублікі падпарадкаваць нацыянальнай ідэі;
- утварыць моўныя камісіі і моўныя экспертызы ва ўсіх установах і сродках масавай інфармацыі;
- прадугледзець крымінальную адказнасць за антынацыянальную дзейнасць.

Кожная рускамоўная тэле- і радыёперадача – антынацыянальная дзейнасць.

Той хто ад імя Беларусі сёння падпіша саюзную дамову зробіць злачынства перад беларускім народам і падлягае крымінальнай адказнасці.

Беларусь не падрыхтавана ні да якіх пагадненняў і дамоў. Што мы маем? Мы маем абрэзаную тэрыторыю. Я не асуджаю наш урад, калі ён патрабуе Віленскі край, але мы патрабуем яшчэ і Смаленшчыну, і Браншчыну, і Беласточчыну. Цяжка вярнуць гэтыя землі, але пытанне пра спрэчныя тэрыторыі на перамовах па падпісанні саюзнай дамовы павінна быць пастаўлена.

Мы не маем канстытуцыі сувярэннай Беларусі, не маем нацыянальнай улады. Пра які Саюз можа ісці гаворка.

Мы прапануем падкласці трывалую эканамічную падкладку пад будынак беларусізацыі, пад закон аб мовах. Гэта:

- усім выкладчыкам усіх навучальных установ, хто вядзе заняткі па-беларуску павысіць зарплату на 30 працэнтаў;
- на ўсе установы, выданні, партыі, якія не выконваюць закона пра дзяржаўнасць мовы, накладваць штрафы, а грошы скарыстоўваць для беларусізацыі;
- усім установам, арганізацыям, рухам, партыям, у назве якіх ёсць словы "Беларусь" ці "беларускі" і, якія не ўжываюць беларускую мову забараніць выдзяленне эфірнага часу на беларускім радыё, тэлебачанні, у дзяржаўным друку і г. д.

Зараз гісторыя нам дала апошні шанц выратаваць сваю мову і сваю нацыю. І я хачу скончыць сваё выступленне словамі Янкі Купалы:

***"Пара ў рукі браць паходні,***
***уставаць,***
***ісці ноч прасвятляць,***
***бо, што***
***не воозьмеце сягоння,***
***таго і заўтра вам не ўзяць".***

Такі быў час, такія былі памкненні, такія былі прамовы. Магчыма не ўсё было гладка і карэктна, але так было.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 11. 2004 г. Замова № 2179.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1280 руб., 3 мес.- 3840руб.
*Кошт у розніцу:* 290 руб. (у Менску - 310 руб.)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013